Opłata pocztową uiszczono ryczałtem.

# Сялянская праўда

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй. **Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 33. Вільня, Нядзеля, 14-га сьнежня 1924 г. Год I.

## Перасьцярога настаўнікам.

З праўдзівай агідай прымушаны мы гаварыць на страніцах нашае часопісі аб гэным гнязьдзе маральнага бруду і нацыянальнае здрады, якое прадстаўляе ўслаўленая шулерня — „Беларускае“ Грамадзянскае Сабраньне ў Вільні і ўсе яго ўстановы. Але — хоч ня хоч — прыходзіцца падняць голас, каб перасьцерагчы беларускае вучыцельства перад новай правакацыяй, якую ладзяць нашым настаўнікам „рыцары зялёнага стала“.

У працягу цэлага раду месяцаў, пад той час, як Беларуская Школьная Рада і ўся беларуская ідэйная прэса заклікала беларускае насяленьне Заходняе Беларусі да арганізацыі сваіх сіл і барацьбы за сваё законнае права на родную школу, — агенты Грамадзянскага Сабраньня і ягоныя падгалоскі: „Тымчасовая Беларуская Рада“ і газэта „Грамадзкі Голас“—стараліся *ўсыпіць наш народ і нашае вучыцельства* баламутнымі завярэньнямі, што „яны“ — „польская партыя“—ужо дасталі ад улады права адкрываць беларускія школы і вось-вось пачнуць гэта рабіць. „Вучыцялі!“—клікаў „Грам. Голас“,—„хто першы ў нас запішацца, той першы і школу дастане!“

Ужо з апошняе абяцанкі кожын мог зразумець, наскольлі паважнымі былі гэныя пасулы: шулерня мелася „назначаць“ вучыцялёў, не паводле іх здольнасьці і падгатоўкі, але „ў парадку падачы заяваў“.— Дый хутка міністар Міклашэвскі, у бытнасьць сваю ў Вільні, разьвеяў усю гэную ману, заявіўшы, што сёлета—ў 1924—25 школьным годзе — урад ня зьбіраецца прыступаць да правядзеньня ў жыцьцё ўставу аб беларускіх школах...

Палітыка „ўсыпленьня“ народу сарвалася. Дый і беларускае насяленьне, і беларускія настаўнікі далі послух ня тым, хто казаў ім аблыжна, што „ўсё будзе добра, толькі рабіць нічога ня трэба“,— а тым, хто клікаў да працы і змаганьня. У выніку працы нашых дэпутатаў у Сойме мы здабылі языковыя законы: Школьная Рада паказала народу і вучыцельству шлях да здабыцьця таго, што тыя законы нам павінны даць. 100 прыгавораў сельскіх сходаў і 500 вучыцельскіх заяваў прысланы ўжо ў Школьную Раду. Дзесяткі *прыватных* беларускіх школ ужо паадкрываліся або адкрываюцца. Але *няма ніводнае школы, адчыненае Грамадзянскім Сабраньнем*....

Здыскрэдытаванае ў вачох усяго беларускага грамадзянства гэнае самае Сабраньне хутка здыскрэдытавалася і ў вачох лепшае часткі польскага грамадзянства. Польская ідэйная прэса падняла востры пратэст проці таго, што ўрад нават вядзе гутаркі з „дзеячамі“ шулерні—фігурамі „z-pod ciemnej gwiazdy“. У выніку баталіі паміж „гасьцьмі“ і „гаспадарамі“ шулерні адміністрацыя была прымушана прыпыніць тую „залатую раку“, што з кішанёў ігракоў плыла ў кішані „дзеячоў“ Грамадзянскага Сабраньня...

І вось гэная цёплая кумпанія надумалася *паправіць сваю скандальную рэпутацыю* — і то *коштам беларускага вучыцельства*. „Рыцары зялёнага стала“ перафарбаваліся ў „культуртрэгераў“: яны стварылі таварыства „Прасьвета“, статут якога з нязвычайнай шыбкасьцяй—дзякуючы магутным пратэктарам!—прайшоў праз усе належныя ўстановы і быў зацьверджаны бяз ніякіх перашкод. І вось валэйшаўская кумпанія ад імя гэтага таварыства склікае на 16 і 17 сьнежня на зьезд у Вільні беларускіх вучыцялёў.

Перад гэтым зьездам мы лічым сваім абавязкам *перасьцерагчы нашых настаўнікаў*. Можна прадбачыць, што на зьезьдзе валэйшаўскія агенты будуць старацца так абаламуціць вучыцельства рознымі ілжывымі абяцанкамі, каб яно пакінула барацьбу за родную школу. А адначасна зьезд будзе і *палітычнай разьведкай* аб працы нашага вучыцельства, ды кожнае сьмелае і шчырае слова, сказанае прыежджымі з вёсак, адаб'ецца рэхам якраз там, *дзе не належыць*, і за яго найбольш энэргічныя дзеячы на полі беларускае асьветы лёгка *могуць аказацца адарванымі ад роднае глебы*....

Мімаволі ўспамінаецца такі самы зьезд, ладжаны колькі гадоў назад „знамянітым“ Аляксюком. Тыя даверчывыя людзі, якія тады прыехалі і пробавалі прамаўляць насупраць Аляксюка, груба пазбаўляліся голасу, а іншыя дасталі ад аляксюкоўскіх агентаў па карку і выкідаліся за дзьверы, — хоць перад уладай Аляксюк свае рэзалюцыі выдаваў за... „голас зьезду“. Цяпер па такой-жа сыстэме ладзіць зьезд Валэйша, дый зусім не выключана, што за кулісамі перамаляванае ў „прасьветны“ колер шулерні ўкрываецца той-жа Аляксюк!

*Сьцеражыцеся, настаўнікі!*

## Прамова дэп. кс. Станкевіча

*ў Сойме 10.XII. 1924 ў часе дыскусіі аб дадатковым бюджэце на 1924 г.*

Высокі Сойме!

У часе агульнае дыскусіі аб бюджэце на 1924 год Беларускі Клюб высказаўся проці яго. Сягоньня, карыстаючыся магчымасьцяй, ад імя таго-ж Клюбу бяру слова ў справе дадатковага бюджэту на гэты-ж год, каб ізноў заявіць тое самае. Нашае становішча ў гэтай справе ня можа быць інакшым, чым прынцыповае становішча, занятае раней. Бо ўрад п. Грабскага, як і ўсе папярэднія ўрады, бязспрэчна вядзе проці нас палітыку дэнацыяналізацыі і зьніштажэньня—у роўнай меры на груньце культурным і эканамічным.

Польская палітыка ў адносінах да нашых земляў была заўсёды такой, а ня іншай. Пекныя лёзунгі вольныя з вольнымі, „толеранцыйная Польшча“ — заўсёды былі толькі прыкрыцьцем інакшага стану рэчаў. Аб гэтым можна пераканацца нават па творах польскіх аўтараў, як „Wilno“ Крашэўскага, „Dzieje Narodu Litewskiego“ Нарбута і інш.

Але пакіньма мінуўшчыну, а гляньма на сучаснасьць. Польшча адраджоная, Польшча сучасная ў працягу пяцёх апошніх гадоў была ўсьцяж варожа настроена да беларускага народу. „Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich“, „Litwa Środkowa“ і ўрады сучаснае Польшчы ніколі ня мелі позытыўнае і хоць крыху прыхільнае да нас палітыкі, апрача палітыкі ўціскаьня ўсіх праяваў беларускага культурнага і эканамічнага жыцьця.

Ужо мае калегі ў часе дыскусіі аб дадатковым бюджэце пры другім чытаньні яго высказаліся аб палітыцы міністэрства ўнутраных спраў і міністэрства зямельных рэформ. З іх прамоваў Высокі Сойм даведаўся, што міністэрства ўнутраных спраў адзіны лек на паляпшэньне цяжкое долі беларускага народу бачыць толькі ў сталым павялічываньні паліцыі, у насыланьні чужынцаў—урадоўцаў, ды, ведама, у вайсковым асадніцтве на беларускіх землях.

Ведаем такжа, што падаткі — гэткія вялікія, што беларускае сялянства ня ў сілах іх плаціць.

Дык над усім гэтым, маючы абмяжованы час, ня буду затрымлівацца. Затрымаюся крыху даўжэй над беларускай асьветай.

Імкненьне беларускага народу да здабыцьця сваей роднай школы ад 1905 году, а йшчэ больш пасьля расейскае рэвалюцыі, усьцяж расло і ўзмацоўвалася. Дзеля панятных прычын, жаданьне беларускае школы пад польскаю ўладаю сьпярша выяўлялася больш сярод беларускага праваслаўнага насяленьня. А гэта часта давала польскім палітычным чыньнікам повад лічыць гэтае імкненьне раўназначным з звычайнай апазіцыяй і заяўляць, быццам яго можна здаволіць — замест беларускай—расейскай школай. Дык часта ўлада больш прыхільна глядзела ў нас на расейскую асьвету, чым на беларускую. у тэй мысьлі, што расейскую школу на беларускіх землях, як школу бяз будучыны, лягчэй за беларускую можна будзе перарабіць на польскую. бо беларуская школа органічна зраслася з жывым, адраджаючымся беларускім народам. А беларусаў-каталікоў наперад лічылі і цяпер лічаць за палякоў, ці, прынамся, за этнічную масу, якую лёгка ў хуткім часе можна будзе апалячыць.

Вось-жа на ўсё гэтае я павінен заявіць, што падобны пагляд на нас цяпер—зусім няправільны. Цяпер беларускі народ у Заходняй Беларусі, як праваслаўны, так і каталіцкі, у агульнай масе свaей выразна высказываецца за беларускую школу. Аб праваслаўных беларусах у гэтай справе паны пэўне і самі не сумляваецеся. А што датычыцца каталікоў, дык—на падставе ўласных спасьцярогаў—ручаюся паном, што ў глыбіні псыхікі беларуса-каталіка адбываецца выразная і глыбокая эвалюцыя на карысьць беларускае нацыянальнае сьвядомасьці.

Сягоньня, ня гледзячы на адміністрацыйныя перасьледаваньні, беларускае насяленьне масова робіць прыгаворы аб адкрыцьці беларускае школы, а беларускія вучыцялі масова дамагаюцца працы ў роднай беларускай школе.

Беларуская Школьная Рада ў Вільні мае цяпер да 100 прыгавораў беларускага люду і блізу 500 заяваў беларускіх вучыцялёў аб уласных школах. А сколькі-ж гэткіх прыгавораў і гэткіх заяваў не дайшло да Рады дзеля зразумелых перашкод? Ну, ды ня ў тым справа! Спытаймася: ці гэтыя бязспрэчныя дамаганьні беларускага народу ў галіне асьветы хаця ў часьці зьдзейсьнены Урадам? Ды нічога падобнага! Урад і далей стаіць на становішчы гнібеньня беларускае асьветы, на становішчы апалячываньня беларускага насяленьня.

На гэткую палітыку ня мала сьвятла кідае тайны цыркуляр міністэрста асьветы з 18.V. с. г. № 5841, у якім, паміж іншым, раіцца школьным уладам ня толькі не адчыняць новых школ у гэтым годзе, але зачыняць ужо істнуючыя. Праўда, цыркуляр гэты адносіцца ня толькі да нас, але паны разумееце, што ён адаб'ецца перад усім на нас.

А цяпер колькі слоў аб языковых уставах. Мы былі таго перакананьня, што яны былі спрэпараваны выключна дзеля паказу, дзеля заграніцы. Сяньня гэта пацьвярджаецца ў поўнай меры. Вось-жа, ня гледзячы на масавае дамаганьне беларускае школы з боку беларускага насяленьня, ня гледзячы на даволі значны байкот гэтым насяленьнем польскае школы, — нашаму народу беларускае школы не даюць! Урад нічога ня ўчыніў дзеля таго, каб на нашых землях правясьці языковыя ўставы наагул, а асабліва ўстаў аб школах, хоць Беларускі Клюб 2.X. с. г. праз сваю дэлегацыю напомніў аб гэтым п. Грабскаму. Урад толькі здабыўся на стварэньне і толераваньне, так-званага „Беларускага Грамадзянскага Сабраньня“, ці так-званае „Тымчасовае Беларускае Рады“ ў Вільні (што ёсьць тое самае!), ведзеных безадказнымі ў беларускім жыцьці людзьмі. Вось-жа гэтыя нібы-то беларускія арганізацыі Урад корміць абяцанкамі, што іменна яны будуць мець магчымасьць закладаць беларускія школы, дый гэта таксама робіцца няшчыра. Робіцца гэта дзе-

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### „Трэцяе (і апошняе!) чытаньне“... для п. мін. Міклашэвскага...

Калі мін. асьветы Міклашэвскі пры другім чытаньні яго бюджэту атрымаў выразнае недаверые Сойму, дык п. прэм. Грабскі парадзіў свайму няўдачліваму сябру пачакаць з адстаўкай—палядзець, можа правіца здалее ўратаваць яго пры трэцім чытаньні, як гэта ўжо было паўгода назад.

Дык вось эндэк Рымар запрапанаваў—пры трэцім чытаньні бюджэту — скасаваць прынятую Соймам пастанову, якая выражае недаверые міністру асьветы.

Але большасьцю 1 голасу (175 проці 174) ратуючая міністра—коштам асьветы—прапазіцыя эндэкаў была адкінута...

У выніку гэтага п. Міклашэвскі наканец атрымаў адстаўку і пакінуў сваё становішча, на каторым так аскандаліўся.

Абавязкі міністра асьветы часова выпаўняе п. Завадзкі, уведзены ў міністэрства п. Міклашэвскім!

### Пляны п. Карфантага.

П. Карфанты не дарма-ж скупляе газэты і іншыя „прадпрыемствы“. Гэты польскі „Штынэс“ пастанавіў, як піша „Gaz. Warsz.“, зрабіцца прэм‘ерам у Польшчы. Цяпер ён скупляе ўсе каапэратывы на Сьлёнску, каб пазбавіць усялякай апоры на мейсцы так-зв. „энпээраўцаў“ (роботнікаў-нацыяналістаў), ды, гэткім чынам, змусіць у Сойме паслоў N. P. K. да падтрыманьня ягоных плянаў.

Урад Карфантага меў-бы абаперціся на партыі цэнтру і правіцы, выключаючы эндэкаў!..

### „Аўтаномія“ „Крэсаў“.

Пакуль пэпээсаўцы кажуць свае няшкодныя прамовы аб аўтаноміі для „Крэсаў“, урад робіць сваё.—Толькі што Рада міністраў назначыла камісію з 6 сяброў, якая мае задачай „упарадкаваць“ і зраўняць усё законадаўства на „Крэсах“, каб ня было ніякае розьніцы з „Мацежай“.

Спробу гэтага „аб‘яднаньня“ толькі што зрабілі ў Вільні паны польскія прафэсары на зьезьдзе юрыстаў, але сам зьезд, асабліва пасьля дакладу адваката Врублеўскага, адкінуў гэты „замах з нягоднымі срэдзтвамі“...

### Корпус пагранічнікаў.

У Соймавай ваеннай камісіі ген. Мінкевіч зрабіў даклад аб арганізацыі корпусу пагранічнікаў на „Крэсах“.

Ужо сфармаваны 10 батальёнаў пяхоты і 10 эскадронаў кавалерыі. Але, каб зусім „закрыць“ граніцу, патрэбна ў 3 разы больш, — як пяхоты, таксама і кавалерыі. Цяпер на адну вярсту прыходзіцца 6 вартаўнікоў, але карысныя рэзультаты адчуваюцца ўжо ясна.

### Правізорны бюджэт на 1925 год.

12.XII ў Сойме пачнецца дыскусія аб „правізорным“ (на 3 месяцы новага 1925 году) бюджэце, які падаў урад. Гэта ўжо — трэцяя дыскусія аб бюджэце ў працягу апошніх месяцаў.

### У Клюбе Брыля.

У клюбе „брылістаў“ ніяк не маглі выбраць старшыню. Выбраны п. Плюта—адмовіўся; выбралі п. Точка—адмовіўся; нарэшце выбралі п. Брыля.

### Да канфлікту ў Лодзі.

Дэлегаты ад работнікаў і прамыслоўцаў у Лодзі не дайшлі да паразуменьня ў справе выбару арбітражнай (разьемчай—судовай) камісіі, якая бы вырашыла канфлікт. Дзеля таго камісія будзе назначана міністрам працы ў паразуменьні з міністрам тарг. і прамысл.

### Арышты ўкраінцаў у Львове.

7.XII паліцыя акружыла дом вядомага дзеяча-украінца, д ра Панчышына і зрабіла ў яго вобыск. З дому было выведзена каля 30 асобаў, якія ўсе былі дапрошаны ў паліцыі.

### Бандыты ў цягніку пад Кракавам.

9/XII на двух пасажыраў у цягніку, які ехаў з Пазнані ў Кракаў, напалі ў купэ 2 бандыты, якія, забіўшы абодвух пасажыраў, выкінулі іх з вагону, а самі выйшлі на станцыі і скрыліся. Ранены цяжка чыгуншчык Чук.

### Падпалы ў Дзісеншчыне.

Сцьверджана, што ў Дісьненшчыне рад пажараў выкліканы падпалам.

### Дэлегацыя асаднікаў у прэм‘ера.

Прэм. Грабскі прыняў дэлегацыю польскіх асаднікаў з Валыншчыны, якая прадставіла яму стан асадніцтва на Валыні і—пэўна-ж прасіла абароны і... дапамогі.

## Заграніцай.

### Сэсія Рады Лігі Народаў.

10.XII на паседжаньні Рады Лігі разглядаліся справы, зьвязаныя з арганізацыяй кантролю над разбраеньнем пераможаных дзяржаў — Нямеччыны Аўстрыі, Вэнгрыі і Баўгарыі.

### Паседжаньне Рады Лігі Народаў.

Трэцяе паседжаньне Рады Лігі пачалося чытаньнем лісту міністра Чэмбэрлена. У лісьце тым прадстаўнік Англіі заяўляе, што англійскі ўрад ня меў яшчэ часу пазнаёміцца, як сьлед, з працай Лігі на апошнім зьездзе ў Жэневе і дзеля таго просіць адлажыць разгляд пратаколу на пасьля.

Пасьля гэтай заявы, ад імя Англіі, дэлегат Францыі Брыян заяўляе, што, веручы ў чыста тэхнічныя прычыны (!) жаданай Англіяй адстрочкі,—бо-ж Англія заўсёды найгарачэй пільнавала аўтарытэту Лігі (калі ёй гэта ня шкодзіла! *Р.*), Францыя ня будзе пярэчыць прапазіцыі Англіі.

Салянлра (—ад імя Італіі), і ўсе іншыя сябры Рады далучаюцца да прапазіцыі Чэмбэрлена. Рада прымае прапазіцыю.

Пасьля гэтага прадст. Чэхаславакіі. Бэнэш прапануе склікаць канфэрэнцыю ў справе разбраеньня на 4 траўня, а на паседжаньне Рады ў сакавіку паставіць на парадку дня падгатоўку да гэтай канфэрэнцыі. І гэтая прапазіцыя прынята.

### Палітыка Чэмбэрлена.

Як пішуць англійскія газэты, палітыка Чэмбэрлена імкнецца да стварэньня „раўнавагі“ (?) ў Эўропе, абапёртай на паразуменьні Англіі, Францыі і Італіі, якая-б гарантавала Вэрсальскі Трактат. Гэткае паразуменьне змусіла-бы Францыю да значнай зьмены напрамку яе палітыкі і, можа, зваліла-б сучасны ўрад Эрыо, замяніўшы яго ўрадам Брыяна.

### „На вызваленьне Вільны з польскіх рук“...

„Dz. Wil.“ даносіць „з літоўскага пагранічча“, што ў Літве, а перад усім у пагранічных ваколіцах распачата энэргічная акцыя зьбіраньня ахвяраў—„на вызваленьне Вільні з рук Польшчы“.

### У бок Польшчы.

Тая-ж газэта піша, што ў Коўні вельмі занепакоены тым, што камуністычны замах у Эстоніі папхнуў балтыцкія дзяржавы ў бок Польшчы, што вельмі не на руку Літве.

### Шпіёнскія справы ў ССРР.

„Сегодня“ паведамляе, што ў ССРР пачаўся рад новых працэсаў аб шпіёнстве—ваенным і эканамічным—на карысьць Польшчы.

Абвінавачанымі зьяўляюцца ўрадоўцы польскіх консульстваў.

Так, напрыклад, у Харкаве targовы раднік польск. консульства засуджаны за эканамічнае шпіёнства на расстрэл. У Кіеве засуджаны на 10 гадоў турмы нейкі Плотнікаў, які прызнаўся, што быў агентам польск. генар. штабу і зьбіраў весткі аб чырвонай арміі і чыгунках ССРР.

### Іоффэ—пасол ССРР у Вене.

Радавым паслом у Аўстрыі назначаны Іоффэ, які ўжо выбіраецца ў Вену з штатам пасольства ў 150 асоб!

### Новы пасол ССРР у Эстоніі.

Радавы пасол у Эстоніі, Кабецкі, пераведзены ў Данію, а на яго месца ў Рэвель назначаны сэкрэтар каміс. загр. спр. Пятроўскі.

### Адстаўка прэзыдэнта эстонскай Рэспублікі.

Прэзыдэнт Эстонскай Рэспублікі, д-р Акель, афіцыяльна падаўся ў адстаўку, матывуючы яе благім станам здароўя.

### Адстаўка габінэту Маркса.

На апошнім паседжаньні габінэту міністраў, разглядаўшым злажыўшаеся, у выніку выбараў, палажэньне, урад Маркса пастанавіў падацца ў адстаўку.

### Да стварэньня новага ўраду ў Нямеччыне.

Пытаньне, каму прэзыдэнт даручыць стварэньне габінэту, займае ўсю прэсу. Думаюць, што Маркс ня мае ніякіх шансаў. Называюць кандыдатамі: Штрэзэмана, Гэргта і Лерхенфэльда. Але-ж усе гэтыя прозьвішчы паказываюць, што рэч ідзе аб „буржуазным блёку“...

Венская нямецкая газэта „Wien. Allg. Ztg.“ піша, што 11.XII ўрадавыя сфэры разглядалі пытаньне аб пэрспэктывах стварэньня новага ўраду. Труднасьць апошняга выплывае з таго, што так-званая „вялікая коаліцыя“ (ад с.-д. да „людоўцаў“ штрэзэмана ўключна) залежыць ад згоды „людоўцаў“, але якраз людоўцы не даюць гэтай згоды... Другая магчымасьць—„буржуазны блёк“ — (ад нацыяналістаў да цэнтру ўключна) ізноў залежыць ад цэнтру, але якраз цэнтр — проці гэтай камбінацыі...

Дык палажэньне ствараецца такое, што, можа, у новым парляманце будзе „правіць“ ізноў, як у папярэднім, ня большасьць, а меншасьць — зусім як у Польшчы.

А гэта-ж значыць, што па сутнасьці будзе правіць не парлямант, а ў вельмі значнай меры незалежны ад яго ўрад — больш залежны ад прэзыдэнта...

## Нямецкія выбары.

Падаем лічбы пададзеных за паасобныя партыі галасоў у часе выбараў у Нямеччыне, — раўнуючы іх з маёвымі выбарамі:

| | у сьнежні | ў траўні |
|---|---|---|
| Сацыял-дэмакраты . . . . . | 7.780,000 | 6.014,000 |
| Нацыяналісты . . . . . . . | 6.073,000 | 5.768,000 |
| Цэнтр. . . . . . . . . . | 4.001,000 | 3.921,000 |
| Людоўцы . . . . . . . . . | 3.017,000 | 2.700,000 |
| Дэмакраты . . . . . . . . | 1.902,000 | 1.658,000 |
| Камуністы. . . . . . . . . | 2.679,000 | 3.746,000 |
| Гітлераўцы (фашысты) . . . | 891,000 | 1.924,000 |

З гэтай табліцы відаць, што найбольшую перамогу мелі на выбарах сацыял-дэмакраты, умяркаваныя сацыялісты; павялічылі свае сілы наагул нацыяналісты і партыі сучаснага ўрадавага блёку; абодвы крайнія флянгі — гітлераўцы („народныя сацыялісты“) (?) і камуністы панясьлі значнае паражэньне.

---

Рэзультаты выбараў не вырашаюць зусім выразна пытаньне аб стварэньні ўрадавай большасьці ў новым сойме. Большасьць гэтая, як і ў папярэднім сойме, павінна тварыцца шляхам парляманцкіх блёкаў ці паразуменьняў. І вось, наагул, істнуюць дзьве магчымасьці такога блёку: цэнтра-левы і цэнтра-правы.

Выбар паміж абедзьвюма магчымасьцямі, паводле нямецкай канстытуцыі, належыць да ініцыятывы (пачыну) прэзыдэнта рэспублікі.

Але на гэтую ініцыятыву зусім выразна будуць націскаць: 1) **лічбовая перавага** лева-цэнтравай коаліцыі (супрацоўніцтва), як падлічана, амаль не з **паўсотні паслоў**, і 2) уплыў „заграначных спраў“, патрэба працаваць з Антантай — у некаторай пакорнасьці, выпаўняючы абавязкі трактатаў. Бо-ж на гэты апошні шлях Нямеччына, відаць, хоч-ня-хоч пойдзе.

У кожным разе выбары сцьвярджаюць, што проці гэткай палітыкі папярэдняга ўраду — палітыкі пратэсту на словах і пакорнасьці на дзеле (гатуючы сілы на будучыну, як мы пісалі ў апошнім нумары!), Нямеччына ісьці ня мае адвагі: ані нацыяналісты, ані камуністы, маючыя гэтую адвагу, — рашучай перамогі не здабылі.

Новы нямецкі ўрад будзе прадаўжаць так-званую ў Нямеччыне „палітыку выпаўненьня“ (трактатаў).

У так-зван. „вялікую коаліцыю“ ўвайшлі: с.-д., людоўцы, дэмакраты і цэнтр, што дае большасьць каля 300 галасоў на агульную лічбу 492 паслоў.

---

Вотклікі і ацэнкі нямецкай прэсы пацьвярджаюць гэтыя вывады.

Орган цэнтру „Germania“ піша, што агульны курс палітыкі будзе захаваны, але злажыць урад будзе цяжка, бо кожная камбінацыя будзе мець магутную апазыцыю.

Орган дэмакратаў „Berliner Tageblatt“ піша, што нямецкі народ адкінуў ідэю буржуазнага блёку.

Орган сац.-дэмакр. „Forvärts“ піша, што перамагла „палітыка выпаўненьня“ і што с.-д. будуць актыўна прымаць учасьце ў стварэньні ўраду.

Органы правіцы пішуць аб стварэньні „буржуазнага блёку“, але маюць в. няпэўны тон.

Францускай прэса, камэнтуючы выбары, сцьвярджае, што ўрад Эрыо здолее працаваць з тэй Нямеччынай, якая атрымала большасьць на выбарах...

---

### Барацьба з камуністамі ў Францыі.

Арышты камуністаў пашыраюцца па ўсей Францыі. Газэты пішуць, што лічба арыштаваных камуністаў перайшла за 500 чалавек. Арыштаваных францускіх грамадзян зараз-жа звальняюць, але чужаземцаў садзяць у вастрог ці высылаюць заграніцу. Эрыо паразумеўся з Чэмбэрленам, каб супольнымі сіламі разьбіць у сябе камунізм.

Вядомы капітан Садуль, пасаджаны цяпер у ваенны вастрог, як асуджаны на сьмерць за здраду, вярнуўся з Масквы ў Парыж, радавы дыпляматычны ўрадовец, — каб разьвіць энэргічную камуністычную агітацыю.

Газеты пішуць, што ў выніку ўсіх гэтых мераў... як франк, таксама і англійскі фунт, пайшлі ўгару на біржы (?).

### Нота дзяржаў — Кітаю.

Вялікія дзяржавы-саюзьніцы падалі кітайскаму ўраду ноту, у якой дамагаюцца ад яго выпаўненьня падпісаных Кітаем забавязаньняў.

У разе добрых адносінаў і выпаўненьня трактатаў з боку Кітаю, дзяржавы абяцуюць яму сваю дапамогу...

Кітай добра даведаўся ўжо на сваёй скуры, што значыць гэная „дапамога“.

# ХРОНІКА.

**Напамінаньне.** Цэнтральная Беларуская Шк. Рада гэтым прыпамінае сябрам Таварыства Беларуск. Школы аб узносе сяброўскіх складак за мінулы год, а таксама каб акуратна ўнасіць у бягучым годзе.

Складкі за мінулы год будуць прымацца ў часе агульнага сходу ў нядзелю 14 гэтага сьнежня ў памешканьні Рады — Віленская 12—6. Ц. Б. Ш. Р.

**Прыезд міністра Тугутта.** У пятніцу раніцай прыехаў у Вільню віцэ-прэм'ер Тугутт.

Беларуская Цэнтральная Школьная Рада пасылае да п. Тугутта дэлегацыю ў школьных справах, якая будзе прынята ў нядзелю, у 2 гадз. папал.

**У справе замяшчэньня вышаўшых з Сойму дэпутатаў-беларусаў.** У сьпісках кандыдатаў у дэпутаты № 16 пасьля выбыўшых з Сойму Якавюка і Барана стаяць прадстаўнікі другіх нацыянальнасьцяў (жыды). Згодна з перадвыбарнай умовай, у гэтым прыпадку жыды абязаны ўступіць пяршынства беларусам. Аднак, асобы, якія папалі у сьпіскі, аказаліся падабранымі гэтак няўдачна, што цяпер ня хочуць выпаўніць свайго абавязку і ўступіць належныя беларусам месцы.

Ужо колькі месяцаў назад Жыдоўскі Пасольскі Клюб зьвярнуўся да ўпіраючыхся жыдоўскіх кандыдатаў з заклікам падчыніцца перадвыбарнай умове. Аднак, тыя дагэтуль заяваў аб зрачэньні пяршынства не падалі.

Дзеля гэтага Беларускі Пасольскі Клюб зьвярнуўся да жыдоўскіх дэпутатаў з новым пісьмом, на якое дастаў адказ, што на паседжаньні Жыдоўскага Клюбу 27. XI. 24 прыняты гэткія пастановы:

1) Жыдоўскі Клюб зьвернецца да цэнтральнага камітэту арганізацыі сіяністаў-артадоксаў „Мізрахі", сябрам якое зьяўляецца д-р Бульва, з просьбай зрабіць на яго націск, каб уступіў пяршынства ў сьпіску кандыдатаў на карысьць беларускага кандыдата.

2) Жыдоўскі Клюб захоўвае ў сіле сваю ранейшую пастанову, паводле якое жыдоўскія кандыдаты, якія прымуць мандаты нязгодна з перадвыбарнай умовай Блёку Нацыянальных Меншасьцяў, ня будуць прыняты да Жыдоўскага Пасольскага Клюбу.

Будзем ждаць вынікаў гэтых пастаноў, бо-ж, запраўды, утварылася вельмі дзікое палажэньне, што няпольскае насяленьне Бельскага і Горадзенскага выбарных акругоў ужо гэтулькі часу астаюцца без прадстаўнікоў у Сойме.

**У Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі.** У выніку цкаваньня „Dz. Wil." за „прыхільнасьць да беларусаў", рэктар прав. дух. сэмінарыі, япіскап Антоні, як даведалася „Słowo", пераносіцца ў Варшаву, а на месца рэктара варочаецца ізноў архім. Піліп (Морозов).

**Орган беларускае моладзі.** Выйшаў з друку № 1 орган беларускіх студэнтаў „Студэнцкая Думка".

Матар'ял, зьмешчаны на 40 стр., даволі разнародны і цікаўны. Агульны выгляд паважны.

Агляд дамо ў найбліжэйшых нумарох.

**„Беларускі Тэатр".** Пад гэткім загалоўкам выйшла з друку невялічкая кніжачка, Ф. Аляхновіча, якая на 114 стр. стараецца нарысаваць агульны ход разьвіцьця беларускага тэатру ад найдаўнейшых часоў. Шкада, што кніжка выдана вельмі бедна — бяз рысункаў і фатаграфіяў, гэтак неабходных для ілюстрацыі тэксту.

# Карэспандэнцыі.

## Замест школы беларускай, далі біяду вёсцы.

*(Чамяры, Слонімскага пав.).*

Аб нашай вёсцы ўжо было трошкі напісана ў часопісі „Сялянская Праўда" № 22. Але кажу, што трошкі, бо, каб напісаць усё, дык не хапіла-б мейсца на што другое. А газэта мае, апрача нашай вёскі, яшчэ вёсак тысячы, з якіх, як вада цячэ, йдуць скаргі на ўціск, скаргі на незаслужаныя зьдзекі з боку адміністрацыі, ад якіх вестак сэрца сум агартае.

Вось, напрыклад, што зрабілі інспэктар і польскі вучыцель з зусім законнымі жаданьнямі ўсяго грамадзянства вёскі Чамяры.

Вёска, налічыўшы 80 шкаляроў ад 7 да 14 гадоў, 89 подпісамі ўхваліла прыгаворам „ператварыць" істнуючую польскую школу ў школу беларускую. Усё зроблена і адаслана па начальству: да пана інспэктара паслалі 25/IX, а да п. куратара беластоцкага 17/IX г. г. Ні той, ні другі ані словам не адазваліся на просьбу цэлае грамады і моўчкі праводзяць сваю палітыку.

25/IX, у той самы дзень, як падалі заяву аб „ператварэньні" школы, у вёску прыслалі ад інспэктарату новага вучыцеля, які ї пачаў „ператвараць".

Папярэдняя вучыцелька, п. Макарэвічоўна, хоць і ня вучыла, але не катавала дзяцей: вяла сябе ціха, езьдзіла сабе, куды ёй трэба, і заўсёды казала, што марна траціць часу на хлопскіх дзяцей ня варта, бо ўсё роўна іх нічога панскага не навучыш,—і ня вучыла нічога. Тагды вёска ня мела права прасіць ператварэньня, маўчала; дзеткі бадзяліся па вуліцы, і так аж праз тры гады. Але гэнаму шчасьцю прыйшоў канец: зьявіліся языковыя законы. Заварушылася вёска, думаючы палепшыць свой лёс і навучыць роднага слова сваіх дзетак. І на іх просьбу атрымалі „новага" вучыцеля, які пачаў „ператвараць", але так „ператвараць", што спалохалася ўся вёска, і ў нядзелю 23/XI зноў зьбегся цэлы сход, каб парадзіцца, што-ж далей будзець?

На сходзе пачаліся такія гутаркі, ад якіх цэлы сход змоўк і з вялікім сумам слухаў, як жонка Васіля Дземяшэвіча пыталася ў солтыса: „што цяпер рабіць, калі ў школе польскай гэны новы вучыцель, узяўшы кій ў рукі, пры цэлым ліку вучняў пачаў катаваць па сьцёгнах майго васьмі-гадовага сынка Сьцяпана за тое, што дзіця не разумее гутаркі вучыцеля? Хлопчык быў біты часта, а астатні раз пан Nauczyciel так трос яго за левае вуха, што дзіця не магло цэлы тыдзень легчы на левую старану галавы. Дзіця што дзень плакала, скардзілася на боль, бо вушная ракавіна была патравожана сілаю настаўніка.

Радзіў ёй солтыс і цэлы сход, каб 24/XI пакалечанага вучня адвязьці да дохтара, дзе ўзяць пасьведчаньне і з бумагаю зьвярнуцца да судзебнага сьледаваціеля.

Кабета адкрыта сказала, што баіцца сьледавацеля і судзьдзі і дохтара...

Апрача Сьцяпана Дземяшэвіча, былі пабіты яшчэ вось якія вучні:

1) Аўдоці Дземяшэвіч вучыцель пацягнуў так за вуха, што ажно адарваў яго кусок, да крыві.

2) Вольцы Багданчук — так пацягнуў за касу, што ажно вырваў частку касы.

3) Ліда Клыбік, дачка Данілы, 12 гадоў, дастала так па паталіцы, што аб парту пабіла да крыві губу. Губа доўгі час балела.

4) Дзімітры Чыгрын дастаў негабляваным смальняком тры разы па плячох, ажно сінякі засталіся.

5) Міхал Хрэмчэня, 8 гадоў, дастаў рукою папатыліцы, а смальняком (замест лінейкі) па плячох і па пазурох. Пасьля пабояў да польскай школы не пайшоў.

6) Міхала Сушко польскі „новы" вучыцель, узяўшы за вуха, доўгі час вадзіў у розныя стороны за тое, што ня змог прачытаць слова: О-К-О папольску.

7) Віктар Міска, 8 гадоў, сын Лукаша, дастаў рукою па галаве, ажно ледзь на нагох устаяў.

8) Мікалай Іскрык дастаў куском крэйды па галаве.

9) Марыя Чыгрын дастала сваею ўласнаю кніжкай па галаве так, што ажно кніжка разьляцелася.

10) Валадзімір Міска сядзеў доўгі час без яды, і шмат якіх вучняў вучыцель „гладзіў" па галаве так, што ажно сьлёзы ліліся.

Так былі пабіты блізка ўсе, якія, баючыся штрафаў, пайшлі ў польскую школу. А на тых, хто не пайшоў у школу ад страху перад вучыцелем, ужо ў гміне ляжаць цэлыя кучы павестак, на адбытак бацьком штрафаў грашыма і арыштам.

Дык дзе-ж тое права, што, калі сход саставіць ухвалу на сваю школу, дык ужо ня будуць караць (бо ня маюць права) за непасылку беларускіх дзетак у польскую школу?

Сход бедаваў, сумаваў, радзіў і ні да чога ня мог дайсьці. Вось так ператварылі школу. І пасылаць дзіця бяда, і не пасылай—бяда. Здаецца, новы закон— каб жыць было ляпей; а яно выходзіць далёка горэй. Дык ад каго прасіць помачы?

Здаровы голас кажа: „Самы сабе радзьце. Ніхто вам не паможа!".

Парашылі: ляпей плаціць штрафы, адбываць адсідку, а дзяцей у польскую школу на катаваньне не пасылаць; а тым часам, каб дзеткі ня былі цёмнымі і каб іх залаты век марна ня траціўся, нанялі ў удавы Гарасікавай памешканьне пад сваю беларускую школу, па 3 пуды жыта на месяц і па возу дроў ад вучня, выбралі з грамады свае вучыцеля, які ўжо 13 гадоў вучыў у школах дзетак, назначылі яму ад сябе па 60 злотых у месяц пэнсіі і занятки ўжо распачаліся.

25/XI ў польскую школу пайшло ажно чатыры вучні, баючыся ўсё-ж такі кары. Паглядзеў „новы" настаўнік на „новы" лік вучняў, сумеўся трохі і ўвесь дзень знэрваваны хадзіў па школе,—мусіць, шкадуючы, што біць некага будзець; а калі вызваў да даскі вучня маленькага, каб напісаць якоесь слова, а ў беднага вучня са страху ручкі дрыжэлі, і ня змог нічога напісаць, дык „новы" вучыцель і кажа: „Ня бойся мяне, я ўжо біць вас ня буду. Гэта я быў вельмі хворы і ў гарачцы так часта і так моцна вас біў, а цяпер я ўжо паздаравеў і біць вас ня буду".

Але бачаць дзеткі, што іх „новы" вучыцель такі самы сёньня, які быў і тры дні назад, ня вераць яго словам і напэўна цераз дзён два ў „хворага" вучыцеля нікога не застанецца, бо ў вёсцы ніводнага паляка няма, а ўсе да аднаго беларусы, ды яшчэ і праваслаўныя.

Парадзіўшыся на сходзе і дагаварыўшыся да дзела, адзін з старэйшых і кажаць: „Вось, як зрабілі: замест пайсьці насустрэч сходу і даць нам родную школу з вучыцелем, якога грамада хочаць і які маець права, бо вучыў 13 гадоў,—далі вёсцы біяду. Але вядома, у хворым целі кожны яго атом хворы, а спадзявацца на каго, дык „пакуль сонцэ выйдзець, раса вочкі выесьць. Ляпей ты, мужычок, схамяніся, ды за свой розум вазьміся: і бяды ты ня зробіш нікому, і жыць ляпей будзець самому"!..

**Чамеравец.**

## З жыцьця Сьвянцяншчыны.

Паважаная рэдакцыя, даўно я да Вас ня пісаў, ды не мая ў гэтым прычына: неначым пісаць было, паперы не хапіла, бо ў Сьвянцянах усю выкупілі абывацелі ды сяляне, прашэньні пішучы, каб у падатках паслабілі, бо, не раўнуючы, так падаткамі людцоў прыперлі, што ні охнуць, ні ўздыхнуць, апошнюю курку дык і тую на рынак вынясьлі — на падаткі прадаць.

Ня дай Божа, як цяжка людзям: толькі, кажуць, заплаціш падатак паньствовы, глядзі: нясуць ужо наказ соймікавы; заплаціш соймікавы, — за ім ідзе грунтовы; заплаціш грунтовы, — ідзі плаці будынковы, пасьля таго дарожны, вейскі, мейскі, гмінны, а то як сыпнуць гандлёвы, обротовы, ад сабак, ад гарэлкі, піва, нейкі пальны, збыткоўны, ды ад „выгоды асабістай" то-ж, — ну і дзеж грашэй набраць?

Нейк людзі даведаліся, што, калі напішаш „адваланьне" чы „рэкурс", то і пачакаць з заплатай можна, рэдка калі падатак зменшаць; ну і давай псаваць паперу і пісаць; хто крапчэйшы ў пісьме, дык сам, а хто слабейшы, — да парадчыка ў „бюро подань" паперлі.

Парадчыкаў у нас — дык як грыбкоў пасьля дождзыку; „рэкурсы" пішуць, аж люба, ды і грошы не забываюць грэбсьці ў кішаню, а тут, дай Бог, каб добра было, быўшы пан Інспэктар скарбовы, поруч з нашым панам Старостай, давай іх за бокі браць: адзін сыпне штраф дзеля таго, што парадчык без патэнту бюро адчыніў і „паданьні" піша: а другі на гэты-ж патэнт канцэсіі парадчыку не дае, дый з хаты вон гоне. І дзеля таго парадчыкаў паўбавілася, у ўрадоўцаў меней работы—паданьняў разглядаць ня трэба, а сяляне саматугом, без запінкі, грошы нясуць на падаткі. — Скарбу ня ў убытак!

Цяпер, дзякуй Богу, людцы сьмялейшымі сталі, болей нашу „Сялянскую Праўду" чытаць пачалі. Як прыдзе газэціна часам у Сьвянцяны і аб нашым жыцьці гаротным напіша, так пры аптэчным складзе п. Тарасейскага (там заўсягды газэты розныя купляць можна), як не збярэцца „хвасток", хіба на вярсту даўжынёй будзе. І каго там нямаш: і ўрадоўцы з Сойміку ды з Старастава, дактары, інжынеры, купцы, сяляне, вучыцялі — усіх і не пералічыш. Усе купляюць, купляюць газэту. Хто не з тутэйшых, пабеларуску няўмее чытаць, то зараз на пачаканьні лямантар купляе і вучыцца, каб зразумець; праўда, здараецца, што ня зразу ўцяміць, ды ў перакладзе ў іх на польскую мову з „сябры" „miotła" выходзе! — Нічога, хутка навучацца, паправяцца; ну, а хто не паправіцца, значыць да навукі ня здольны, чы „амурная хвароба" мазгі ўжо патачыла.

Бяду толькі маюць урадоўцы з газэтай: работы падсыпае! Зараз-жа трэба высьвеньне пісаць для Дэлегатуры, як там было, чы праўду газэта напісала; ось і знай выкручывайся і рабі з чорнага белае.

От зьезд у нас хутка ў Сойміку будзе. Мэдытавалі, мэдытавалі і дай назначылі на 19 гэтага месяца, у адзін дзень усё зробяць, павестка дня ня доўгая. Бюджэт на 1925 год ухваляць і ўсё такое, а там стары незацьверджаны пратакол зьезду з 29, 30/I г. году, які на зьезьдзе 18, 19/VII г. г. адлажылі ўхвалай № 1, зацьвярджаць на гэтым зьезьдзе ня трэба: ужо год і канчаецца, і другі надыходзе.

Выбіраць новай рэвізыйнай камісіі тож ня рупяцца; нашто, калі яе прэзэсу надта ўжо падабаецца самачынна быць рэвізорам, — у Гогаля так рабілі, не першыня!

Нядаўна нам перад зьездам гэтым „прэлімінажы" сойміка на 1925 г. прыслалі ў гміны дзеля публічнага выстаўленьня. Ёмка ўложаны, няма што і гаварыць: даходу і расходу акурат да грошыка, — усяго 530,168 злот. і 84 гр., з яго на ўтрыманьне соймікова міністэрства, урадоўцаў — болей 35% усіх даходаў пойдзе, — складна! Цыфры, дык болей агульнай сумай паказаны, от як: тытул IX, паз. 98: відаць, урадоўцы сойміку дзяленьня яшчэ не навучыліся рабіць.

На польскія кніжкі і прылады для польскіх дзяцей, каторые „адналіта" засяляюць павет, дык устаўлена пазіцыя аж на 4,000 злотых, для літоўскіх дзяцей, каторых пару хіба жыве ў павеце, устаўлена 300 зл. Беларускіх-жа дзетак у павеце, відаць, ніводнага не знайшлі, бо на падручнікі ім не высыгнавалі ў сваім „прэлімінажы" ні граша.

Наагул, „прэлімінаж" друкаваны, відаць, на нядаўна купленай новай ротацыйнай машыне, аб патрэбе якой для сойміка завязаўся спор на апошнім зьезьдзе. Яна-ж смагла друкуе: дзьве пары вакуляраў узьдзень, дык не перачытаеш!

Ог, клясы ўрадоўцам сойміку, дык, здаецца, у нашых „прэлімінажах" зусім ня выйшлі — машына, відаць, занаравілася, не друкавала. Ну, і словы ўсе акурат для сялян пісаны: „дыспозыцыйны", „гратыфікацыйны", „рэпрэзэнтацыйны", — зразумелі?!..

**Сябра.**



Рэдактар-Выдавец **Антон Войцік**. Друкарня Н. Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.